*В.А. ФЯДОСІК*

# НАВУКОВАЯ ШКОЛА М.М. НІКОЛЬСКАГА І ПЕРСПЕКТЫВЫ ЯЕ РАЗВІЦЦЯ

Исследуется роль академика Н.М. Никольского в развитии исторической науки в БГУ, характеризуется деятельность и достижения созданной им в Белорусском государственном университете научной школы исследователей раннего христианства и Древнего Востока.

The role of academician N.M. Nikolsky in the development of historical scholarship at BSU analyzed, the activities and achievements of the scientific school of Belarusian State University researchers of early Christianity and the Ancient East that he created are characterized.

Станаўленне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта як буйнейшага цэнтра гістарычнай навукі і гістарычнай адукацыі на Беларусі непарыўна звязана з дзейнасцю акадэміка М.М. Нікольскага. Асабліва відавочны ўплыў гэтай велічнай у айчыннай навуцы постаці ў развіцці той галіны гістарычнай навукі, што традыцыйна прынята называць класічнай, – гісторыі старажытнасці. Створаная М.М. Нікольскім кафедра гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў БДУ доўгія дзесяцігоддзі была адзіным у Беларусі навуковым цэнтрам па старажытнай арыенталістыцы, антыказнаўству, медыявістыцы. Акадэмія навук с самага свайго пачатку сканцэнтравала намаганні на даследаваннях беларускай гісторыі, старажытная гісторыя замежжа вывучалася ў ёй, бадай што, толькі самім М.М. Нікольскім, калі ён працаваў у Акадэміі, дзе ўзначальваў Інстытут гісторыі, а таксама яго паплечнікам акадэмікам У.М. Перцавым. Так што менавіта кафедра гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў БДУ з'яўлялася і з'яўляецца адзіным у Беларусі навукова-даследчым цэнтрам па гісторыі старажытнасці, кузняй навукова-педагагічных кадраў для ВНУ па тых класічных дысцыплінах, без якіх немагчыма падрыхтоўка сапраўдных гісторыкаў-прафесіяналаў. Дзесяць супрацоўнікаў кафедры атрымалі навуковыя ступені дактароў гістарычных навук, выкладчыкамі і аспірантамі кафедры было абаронена больш за 30 кандыдацкіх дысертацый. Спецыялісты, падрыхтаваныя ў БДУ, працуюць на ўсіх гістарычных факультэтах універсітэтаў Беларусі, шэраг з іх працуе (або працавалі) ва ўніверсітэтах Расіі, Германіі, ЗША. Некалькі гадоў назад з'явілася нарэшце кафедра падобнага профілю і ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка, і, зразумела, наша кафедра цесна супрацоўнічае і заўсёды будзе дапамагаць гэтай маладой кафедры, укамплектаванай, прынамсі, напалову нашымі ж выпускнікамі. Значэнне вывучэння старажытнай гісторыі перш за ўсё заключаецца ў тым, што без вывучэння каранёў, прычын тых ці іншых падзей сучаснасці гісторыя ці сучаснае нам жыццё ўспрымаюцца як нейкі дзівосны калейдаскоп з'яў, падзей. І тады набіраюць моц песімістычныя погляды на футуралагічную місію гісторыі (накшталт постмадэрнісцкай «гісторыі ў асклепках»), няўцямныя і неабгрунтаваныя геапалітычныя, так бы мовіць, «праекты», усплывае рознага кшталту навамодная «метадалагічная пена» і даходзіць да таго, што гісторыю спрабуюць пазбавіць рангу навукі і «ператварыць» яе ў нешта падобнае да жанру літаратуры. Хаця, на самай справе, усё значна прасцей – развіваецца даследаванне ўсё новых і новых сфер жыцця грамадства, чалавецтва, і мы маем справу не з крызісам гістарычнай навукі, а з асэнсаваннем недастатковасці нашых гістарычных ведаў. Спробы ж сканструяваць нейкія новыя сінтэзуючыя мадэлі гістарычнага працэсу без уліку старажытнай, сярэдневяковай гісторыі чалавецтва (ці з уціскannем іх зместу ў рамкі мадэлі сучаснага грамадства) на паверку гісторыяй аказваюцца, мякка кажучы, няўдалымі. І бяда ў тым, што за рэалізацыю такіх спроб даводзіцца аплачваць непамерна вялікі кошт мільёнам і мільярдам людзей, што неаднойчы назіралася, у прыватнасці, у мінулым стагоддзі. Памылкі ў гістарычнай навуцы могуць мець куды больш сур'ёзныя наступствы, чым у галінах прыродазнаўчых навук.

М.М. Нікольскі самым непасрэдным чынам удзельнічаў як у станаўленні БДУ, так і яго гістарычнага факультэта. У пэўным сэнсе сімвалічна, што першую лекцыю пры адкрыцці БДУ прачытаў па старажытнарымскай гісторыі прафесар Д.П. Канчалоўскі, роўна праз год – 30 кастрычніка 1922 г. на ўрачыстым сходзе БДУ выступіў з дакладам М.М. Нікольскі[1]. Яго даклад быў прысвечаны рэлігіі як прадмету гістарычнай навукі. М.М. Нікольскі, у прыватнасці, сказаў: «Нешматлікім у нас вучоным, якія раней займаліся гісторыяй рэлігіі прыватным чынам, дадзена магчымасць паглыбіцца самім у новую навуку і падрыхтаваць у яе галіне новых спецыялістаў... у спакойнай, упэўненай атмасферы навуковага даследавання... І я не магу ўстрымацца, каб не выказаць з гэтай нагоды свае асабістыя пачуцці. Я бязмежна шчаслівы, што мне выпала на долю быць адным з гэтых піянераў навукі аб рэлігіі ў Расіі, што хоць другую, больш кароткую палову майго жыцця я магу нарэшце прысвяціць той справе, якой я марыў прысвяціць сябе яшчэ са студэнцкай лаўкі... Я шчаслівы, што лёс зрабіў мяне ўдзельнікам... новага... універсітэта... Нам многае дадзена, з нас будзе і многа спытана»[2]. Яшчэ ў верасні 1921 г. Вучоным саветам БДУ М.М. Нікольскі быў зацверджаны на пасаду прафесара па кафедры гісторыі рэлігіі[3] (трэба заўважыць, што пад «кафедрай» на той час мелася на ўвазе не звыклае нам сучаснае структурнае ўніверсітэцкае падраздзяленне, а паняцце больш блізкае да класічнага сярэдневяковага). На той час М.М. Нікольскі быў рэктарам Смаленскага ўніверсітэта, у якім працаваў з 1918 г.[4] Ён быў ужо знакамітым вучоным-гісторыкам. Нарадзіўся ў лістападзе 1877 г. у Маскве. Бацька яго – Міхаіл Васільевіч быў

вядомым арыенталістам з сусветным прызнаннем за працы па гісторыі старажытнай Асірыі. Мікалай Міхайлавіч скончыў Маскоўскі ўніверсітэт. Там ён захапіўся вывучэннем гісторыі старажытнага Усходу, перш за ўсё Палесціны. У 1901 г. была апублікавана яго дыпломная работа «Іудзея пры Макавеях і Асманеях» па гісторыі Іудзеі, якая аднавіла сваю незалежнасць пасля нацыянальна-вызваленчага паўстання Макавеяў у сярэдзіне ІІ ст. да н. э. і да яе падпарадкавання Рыму[5]. Цікавасць да гісторыі старажытнай Палесціны абумовіла ў М.М. Нікольскага і яго імкненне даследаваць першапачатковае хрысціянства і іншыя рэлігіі гэтага рэгіёна. На пачатку ХХ ст. выходзяць яго працы «Цар Давід і псалмы», «Старажытны Ізраіль», «Ранняе хрысціянства», «Вавілон і Біблія». Тады ж ён пачынае даследаваць і гісторыю старажытных Вавілона і Егіпта. У 1918 г. была надрукавана адна з найбольш вядомых яго работ «Ісус і першыя хрысціянскія абшчыны». М.М. Нікольскі ніколі не адмаўляў гістарычнага існавання Ісуса; калі ўжо ў 1930-я гг. гэта стала небяспечным для гісторыкаў, ён палічыў за лепшае проста не выказвацца публічна на гэтую тэму.

Істотна, што яшчэ ў сваім дакладзе ў 1922 г., калі М.М. Нікольскі ўжо стала перайшоў на працу ў БДУ, ён папярэджваў даследчыкаў ад захаплення вывадамі так званай «міфалагічнай школы». Гаворачы аб палажэнні нямецкага пратэстанцкага тэолога Адальберта Кальтгофа, што Ісус не існаваў, М.М. Нікольскі заўважыў: «З першага погляду быццам самазабойчая работа... калі і Ісуса ніколі не было, то ці не ёсць гэта канец багаслоўю?.. Не: крытыка чалавечага розуму – адказваюць на гэта сумненне крытычныя багасловы – распасціраецца толькі на справу чалавечых рук. Зусім няважна, хто быў аўтарам біблейскіх твораў... паколькі справа тычыцца раскрытых у іх ісцін абсалютнай рэлігіі. Яны, гэтыя ісціны, маглі быць выказаны ў розны час, рознымі людзьмі... але іх крыніца адна – боскае адкравенне»[6]. Аднак з 1930-х гг. менавіта вывады «міфалагічнай школы» сталі пануючымі сярод навукоўцаў у СССР, яны зрабіліся штампамі ваяўнічай атэістычнай прапаганды. Між іншым некаторыя з іх выклаў у сваім рамане «Майстар і Маргарыта» Міхаіл Булгакаў, сын прафесара гісторыі Кіеўскай духоўнай акадэміі. Ваяўнічы атэізм зыходзіў з вульгарнага тэзіса – дакажы веруючаму, што Ісуса не існавала, і ён адразу перастане верыць у Бога і парве з рэлігіяй. Але вынікі гэтай прапаганды вядомыя. Для гістарычнай жа навукі вельмі небяспечным было тое, што дзеля «абгрунтаванасці» вывадаў «міфалагічнай школы» скажалася сама гісторыя: не толькі адмаўлялася гістарычнасць Ісуса і апосталаў, але нават і сама радзіма хрысціянства пераносілася то ў Малую Азію, то ў Егіпет, то ў Рым. Храналогія кніг Новага запавету скажалася, каб «даказаць», што хрысціяне стваралі ў Новым запавеце вобраз Ісуса Хрыста не «ад чалавека да Бога», а «ад Бога да чалавека», надаючы паступова звышнатуральнай персоне чалавечыя рысы. Нават сведчанні аб Ісусе і першых хрысціянах антычных гісторыкаў Іосіфа Флавія, Тацыта, Святонія, Плінія Малодшага абвяшчаліся «фальшыўкамі» пазнейшых багасловаў[7]. Даходзіла да таго, што нават Понція Пілата пераносілі ў часе і прасторы і аб'яўлялі, што пад гэтым іменем «схаваўся» не намеснік рымскай Іудзеі ў 26–36 гг., а намеснік малаазійскай Віфініі Пліній Малодшы (так сцвярджаў, напрыклад, А. Кальтгоф)[8]. А дзеля чаго? А каб з пыхай абвясціць, як зрабіў гэта ў 1936 г. савецкі атэіст М. Румянцаў: «Ісус такая ж міфічная істота, як Зеўс, Іегова ці баба-яга»[9].

М.М. Нікольскі ніколі не займаўся такімі антынавуковымі фальсіфікацыямі. У 1922 г. выходзіць яго буйная праца па гісторыі ранняга хрысціянства «Сусветны і сацыяльны пераварот па ўяўленнях ранняга хрысціянства» – бліскучы аналіз раннехрысціянскай эсхаталогіі (вучэння аб канцы свету). Ісус у ёй – гістарычная асоба, храналогія кніг Новага запавету – сапраўдная. Нікольскі рэалізоўвае ў кнізе тое, да чаго заклікаў іншых даследчыкаў у вышэйзгаданай прамове ў БДУ ў тым жа годзе, і тое, чаго ён чакаў ад абвешчанага матэрыялістычнага погляду на гісторыю, – даследаванне рэлігіі як «сацыяльнай з'явы, якая групуе людзей, звязаных непарыўнымі сувязямі з усёй сукупнасцю эканамічных, сацыяльных і палітычных адносін у дадзеным грамадстве і ў дадзеную эпоху»[10]. Для М.М. Нікольскага было непрымальным пустазвонства накшталт «рэлігія – опіум для народа», вульгарнае адмаўленне ад прызнання яе каласальнай ролі ў гісторыі чалавецтва. Ён паказвае эсхаталогію як з'яву сацыяльна абумоўленую, і не толькі на пачатку нашай эры. Вось яго словы з манаграфіі, сама назва якой гучыць вельмі яскрава: «Дзейную сілу эсхаталогія атрымлівала толькі ў крытычныя моманты сацыяльных пераломаў... Як толькі сацыяльныя супярэчнасці абвастраліся і прыводзілі да адкрытай барацьбы, дык зараз жа ажыўлялася ў масах і эсхаталагічная ідэалогія і "Адкравенне" Іаана рабілася важнай і папулярнай кнігай. XV і XVI стагоддзі ў Германіі, ахопленай пажарам сялянскіх рухаў, XVII стагоддзе ў Англіі, стагоддзе вялікай англійскай рэвалюцыі, XVII і пачатак XVIII стагоддзя ў Расіі, час сялянскага запрыгоньвання і бясконцых бунтаў – усё гэта эпохі, калі народныя масы захопліваліся тым жа настроем, якім былі ахоплены іудзеі і хрысціяне І стагоддзя... Хрыстос і Антыхрыст станавіліся на баявыя пазіцыі, а кніжныя начотчыкі, учытваючыся ў таямнічыя вобразы... "Адкравення" Іаана растлумачвалі працоўнай масе, што знакі, паказаныя ў "кнізе за сямю пячаткамі", адпавядаюць менавіта падзеям сучаснасці і тэрмін канца можна дакладна вылічыць. Спадзяванні ў тэрмін не збываліся... ставілі новы тэрмін... і пакуль кіпела вострая барацьба... эсхаталогія жыла і трыумфавала па ўсёй лініі. Людзі былі вернымі да смерці, здзяйснялі дзівосныя подзвігі геройскай вернасці ідэі, іншыя, больш нецярплівыя

браліся за зброю, каб сваімі слабымі высілкамі паскорыць наступленне новага царства, у якім сяляне будуць панамі, а былыя паны і святары будуць на іх працаваць. Новае грамадства XIX стагоддзя прынесла з сабою новыя дактрыны аб сутнасці сацыяльна-эканамічнага працэсу і аб спосабе знішчэння сацыяльнага зла, які не мае нічога агульнага з рэлігіяй. Але прырода людской масы засталася ўсё той жа, і, успрымаючы сацыялістычныя дактрыны, яна ўспрымае іх як нейкае новае адкравенне, выкананне якога цудоўным чынам створыць на зямлі Новы Іерусалім, у якім не будзе ненавіснай улады багатых прыгнятальнікаў... заззяе новае сонца радаснай працы і ўсеагульнага шчасця»[11].

У сваёй прамове 30 кастрычніка 1922 г. у БДУ М.М. Нікольскі выказваў захапленне новымі магчымасцямі для даследчыкаў вывучаць рэлігію як з'яву сацыяльную, падкрэсліваючы, што «цэнтр цяжару багаслоўскага вывучэння ляжыць заўсёды не ў даследаванні, а ў дагматыцы, не ў крытыцы, а ў апалогіі»[12]. Пакідаючы яго адносіны да тэалогіі без каментарыя, усё ж трэба зазначыць, а ці мог сам вучоны ўявіць, што неўзабаве той самы матэрыялістычны погляд, які даў яму свабоду даследаванняў у гісторыі рэлігіі, стане той жа з'явай з цэнтрамі цяжару ў дагматыцы і апалогіі «адзіна правільнага навуковага вучэння»? Вывучэнне рэлігіі падмянілася ваяўнічай атэістычнай прапагандай, аб ролі рэлігіі ў гісторыі чалавечага грамадства гаварылі, па сутнасці, толькі словамі Ф. Энгельса, бо ён лічыўся класікам, ды каментарыямі да іх. Рэлігія абвяшчалася нечым шкодным, нейкім «пустазеллем» у гісторыі чалавецтва. Наогул, у СССР даследаванні па гісторыі рэлігій не заахвочваліся, калі яны не ўпісваліся ў рамкі атэізму, каб не «ўзбуджаць нездаровы інтарэс да рэлігіі». У мяккай трактоўцы 1960–1970-х гг. такія даследаванні аб'яўляліся «неактуальнымі», як, дарэчы, і даследаванні па старажытнасці і сярэдневяковай гісторыі. На жаль, і зараз сярод некаторых нашых кіроўных навукоўцаў-тэхнакратаў існуюць падобныя настроі. А без вывучэння гісторыі рэлігіі немагчыма зразумець гісторыю чалавецтва, зразумець чалавека розных эпох, розных цывілізацый, шматлікіх канфліктаў, якія існуюць і зараз.

У 1920-я і на пачатку 1930-х гг. М.М. Нікольскі выдаў шэраг работ па гісторыі хрысціянства і іудзейскай рэлігіі. Але паказальна, што яго кніга «Політэізм і монатэізм у яўрэйскай рэлігіі» была выдадзена ў Мінску ў 1931 г. на беларускай мове, а вось на рускую мову ўпершыню была перакладзена толькі ў 1974 г. у серыі «Навукова-атэістычная бібліятэка»[13]. З 1930-х гг. М.М. Нікольскі фактычна перастаў даследаваць праблемы ранняга хрысціянства. Гэта супала з выданнем яго кнігі «Гісторыя рускай царквы».

Абраны ў 1931 г. акадэмікам АН БССР М.М. Нікольскі сканцэнтроўваецца на вывучэнні праблем гісторыі Старажытнага Усходу. З самага пачатку стварэння гістарычнага факультэта БДУ ён узначаліў кафедру гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў, а пасля яе падзелу ў 1938 г. – кафедру гісторыі старажытнага свету. Шмат увагі надаваў працы з аспірантамі, студэнтамі. Ён стварыў падручнік па гісторыі старажытнага свету для школы, потым разам з С.І. Кавалёвым і А.В. Мішуліным яшчэ адзін, якім карысталіся ў савецкіх школах некалькі дзесяцігоддзяў і які па сваім узроўні нашмат пераўзыходзіў наступныя падручнікі. У 1930–1950-я гг. М.М. Нікольскі (у 1946 г. ён быў абраны членам-карэспандэнтам АН СССР) плённа даследаваў праблемы абшчыннага ладу, рабства, культуры Старажытнага Двурэчча. У дыскусіі сярод савецкіх навукоўцаў аб рабаўладальніцкім ладзе на Старажытным Усходзе акадэмік не пайшоў па, так бы мовіць, лёгкаму на той час шляху фармацыйнага падыходу з яго штампам унікальнасці рабаўладальніцкага ладу для ўсіх цывілізацый старажытнасці – як Захаду, так і Усходу. Ён карпатліва даследуе сацыяльную гісторыю Двурэчча, Фінікіі, асабліва праблему ўласнасці на зямлю. І яго вывады аб дзяржаўнай уласнасці на зямлю ў асобе правіцеля на Старажытным Усходзе дэманстравалі прынцыповае адрозненне ад прыватнай зямельнай уласнасці ў Грэцыі і Рыме, як, дарэчы, і паміж рабствам у антычных і ва ўсходніх цывілізацыях старажытнасці. Выдадзеная ў 1948 г. манаграфія М.М. Нікольскага «Эцюды па гісторыі фінікійскіх абшчынных і земляробчых культаў», рукапіс якой ён вывез у партызанскі атрад з акупіраванага Мінска ў 1943 г., была прысвечана не столькі рэлігіям Фінікіі, колькі асаблівасцям сацыяльнага ладу гарадоў Фінікіі.

Акадэмік М.М. Нікольскі заснаваў навуковую школу гісторыкаў БДУ. Канешне, ён не быў заснавальнікам беларускай арыенталістыкі і антыказнаўства. Так ужо склалася гісторыя, што выдатныя беларускія арыенталісты і антыказнаўцы да таго (ды і шмат пасля) працавалі па-за межамі Радзімы. Выдатны беларускі санскрытолаг і даследчык старажытнаперсідскіх надпісаў палачанін Каэтан Касовіч працаваў у XIX ст. у Маскве, Харкаве, Пецярбургскім універсітэце. У тым жа ўніверсітэце працаваў выпускнік Віленскага ўніверсітэта прафесарам кафедры ўсходніх моў Восіп Сянкоўскі (вядомы і пад літаратурным псеўданімам «Барон Брамбеус»). А заснавальнікам пецярбургскай (тады сталічнай) навуковай школы антыказнаўства называюць у Расіі прафесара Міхаіла Сямёнавіча Кутаргу, ураджэнца Магілёўшчыны[14]. А ў сваю чаргу масквіч М.М. Нікольскі ўзяў самы актыўны ўдзел у стварэнні БДУ і ў развіцці беларускай гістарычнай навукі.

Створаная М.М. Нікольскім навуковая школа ў БДУ, па сутнасці, мела два накірункі: гісторыя ранняга хрысціянства і гісторыя Старажытнага Усходу. У навуковай творчасці акадэміка абодва накірункі былі цесна звязанымі. Затым яны пачалі раздзяляцца і зараз існуюць фактычна як асобныя навуковыя школы, хоць іх інтарэсы і праблематыка іншы раз перакрыжоўваюцца і спалучаюцца. Асабліва

ярка такое спалучэнне можна пабачыць у творчай спадчыне доктара гістарычных і доктара філасофскіх навук прафесара Г.М. Ліўшыца, 100-годдзе якога зусім нядаўна адзначалася. Ён займаўся гісторыяй старажытнай Іудзеі, ранняга хрысціянства. Г.М. Ліўшыц быў першым у СССР (разам з яшчэ адным ураджэнцам Беларусі І.Д. Амусіным) даследчыкам адкрытых у канцы 1940-х гг. кумранскіх рукапісаў – твораў ясеяў, адной з рэлігійна-палітычных груповак ва Іудзеі рубяжа нашай эры. Апакаліптыка, эсхаталогія, месіянізм – галоўныя сюжэты рукапісаў. Вакол гэтых рукапісаў разгарнуліся гарачыя дыскусіі. Многія даследчыкі бачылі ў кумранскіх творах карані хрысціянства, а некаторыя нават бачылі ў асобе Праведнага настаўніка кумранітаў хрысціянскага Ісуса. Г.М. Ліўшыц абгрунтаваў істотныя адрозненні ў вучэннях кумранітаў і хрысціян, асаблівую ўвагу надаў храналагічным несупадзенням часу дзейнасці персанажаў свяшчэнных твораў кумранскіх ясеяў і хрысціян. Новы матэрыял, даследаваны Г.М. Ліўшыцам, істотна пашырыў вывады М.М. Нікольскага. Кнігі Г.М. Ліўшыца «Кумранскія рукапісы», «Паходжанне хрысціянства ў святле рукапісаў Мёртвага мора», «Класавая барацьба ва Іудзеі і паўстанні супраць Рыма» прынеслі яму міжнароднае прызнанне. Дарэчы, у апошняй манаграфіі «класавая барацьба» ў старажытнай Іудзеі падаецца не ў прымітыўным выглядзе «рабы – рабаўладальнікі», а як сутыкненне інтарэсаў шматлікіх сацыяльных груп грамадства хасманейскай, ірадавай і рымскай Іудзеі (а кніга выйшла ў 1956 г.). І тут таксама відавочны ўплыў спадчыны М.М. Нікольскага. Свой уклад у развіццё навуковай школы антычнага хрысціянства ўнёс і прафесар Ф.М. Нячай. Ён выдаў працу аб паходжанні хрысціянскага календара. Яго ж высілкамі на кафедры была створана і спецыялізацыя для студэнтаў па гісторыі рэлігіі (зачыненая ў 1980-х гг., яна была адноўлена ў 1990-х).

Даследаванне антычнага хрысціянства на кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў было працягнута прафесарамі В.А. Фядосікам і І.А. Еўтуховым, аспірантамі (зараз ужо дацэнтамі) А.І. Малюгіным, Л.В. Харычкавай, выкладчыкамі А.А. Тарканеўскім, Л.І. Цацурай, С.П. Шупляком. Значна пашырылася тэматыка даследаванняў. Калі ў цэнтры інтарэсаў М.М. Нікольскага былі праблемы першапачатковага хрысціянства новазапаветнага перыяду, то Г.М. Ліўшыц вывучаў ужо ўвесь перыяд ранняга хрысціянства (да III ст. уключна), а з 1980-х гг. даследчыкі кафедры вывучаюць і праблемы гісторыі хрысціянства ў позняй Рымскай імперыі і ў варварскіх дзяржавах ранняга Сярэдневякоўя. Створаны арыгінальныя навуковыя канцэпцыі рэлігійнай палітыкі рымскай імператарскай улады адносна хрысціян, агульнаімперскіх ганенняў на іх пры Дэцыі, Валерыяне, Дыялектыяне, хрысціянізацыі Рымскай імперыі, варварскіх дзяржаў англаў, саксаў, ютаў, франкаў, фарміравання хрысціянскай ментальнасці насельніцтва Рымскай імперыі і раннесярэдневяковых дзяржаў Заходняй Еўропы. Дарэчы, тытул навуковай школы па антычнаму хрысціянству ў БДУ паходзіць не з Беларусі – упершыню нам яго далі калегі-антыказнаўцы з Маскоўскага ўніверсітэта на пачатку 1990-х гг. Гэта можна лічыць міжнародным прызнаннем разам з запрашэннямі нашых спецыялістаў для выканання навуковых даследаванняў і чытання лекцый у вядучыя ўніверсітэты ЗША, Польшчы, Украіны, Германіі. Нашы манаграфіі і выданні тэкстаў першакрыніц уключаны ў спісы рэкамендаванай навуковай літаратуры ў падручніках і праграмах курсаў многіх універсітэтаў па-за межамі Беларусі. На перспектыву мы аддаём галоўную ўвагу вывучэнню ментальнасці людзей антычнасці, дзе рэлігіі належала дамінуючая роля. Без гэтага немагчыма зразумець «іншасць» чалавека далёкай ад нас эпохі. На жаль, гэтую простую рэч не надта разумее шэраг чыноўнікаў ад навукі.

З часоў акадэміка М.М. Нікольскага на кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў асаблівая ўвага надаецца падрыхтоўцы спецыялістаў па старажытнай арыенталістыцы. У яго творчай спадчыне – даследаванні не толькі па гісторыі старажытнага Двурэчча, Егіпта і Фінікіі, ён быў і адным з першых хеталагаў[15]. У 1960–1990-я гг. плённа займаўся гісторыяй хетаў дацэнт Г.І. Даўгяла, вучоны, які меў вялікі аўтарытэт не толькі ў савецкай, але і ў міжнароднай арыенталістыцы. Яго традыцыі, ужо ў галіне санскрыталогіі, паспяхова працягвае вучань Г.І. Даўгялы А.В. Перзашкевіч. Вучоных такога профілю і ведаў у свеце (па-за межамі Індыі) усяго некалькі дзесяткаў. Кожны год А.В. Перзашкевіча запрашаюць на міжнародныя канферэнцыі індолагаў, яго працы выдаюцца ў краінах, што знаходзяцца вельмі далёка ад нашай Беларусі. На кафедры падрыхтаваны і першы спецыяліст па старажытнаму Акаду з веданнем акадскай мовы і клінапісу В. Барташ. Такіх спецыялістаў у свеце наогул адзінкі. Прызнаннем працы маладога даследчыка стала запрашэнне яго на навуковую стажыроўку ў Германію ў Гейдэльбергскі ўніверсітэт. Кафедра будзе працягваць падрыхтоўку ўнікальных спецыялістаў у галіне старажытнай арыенталістыкі, тым больш, што нідзе ў Беларусі такіх спецыялістаў не рыхтавалі і не рыхтуюць. Справа гэта надзвычай складаная, патрабуе асаблівай кваліфікацыі кіраўніка, асаблівых здольнасцей вучня ў галіне шмат якіх дысцыплін.

У сваёй прамове ў БДУ 30 кастрычніка 1922 г. М.М. Нікольскі асабліва падкрэсліваў значнасць выкарыстання гісторыкамі лінгвістычных, этнаграфічных, фальклорных першакрыніц. Праблемы індаеўрапейскай міфалогіі плённа даследаваў Г.І. Даўгяла, зараз гэтым займаюцца яго вучні – А.В. Перзашкевіч і А.А. Прохараў. Прычым А.А. Прохараў паглыблена займаецца і славянскай міфалогіяй, у тым ліку і беларускай. Ён – адзін з аўтараў «Беларускай міфалогіі», што выйшла ўжо двума выданнямі, нядаўна ўбачыла свет манаграфія «Князь Тур: гісторыя легенды».

Падрыхтаваны на кафедры і спецыяліст па гісторыі старажытнай Іудзеі Д.В. Мазарчук. Ён даследуе гісторыю Іудзеі перыяду другога храма, што з'яўляецца непасрэдным працягам навуковай праблематыкі М.М. Нікольскага і Г.М. Ліўшыца.

Ёсць яшчэ адзін накірунак у навуковай школе М.М. Нікольскага – гісторыя Рускай Праваслаўнай Царквы. Традыцыі акадэміка ў гэтым накірунку працягвае прафесар М.С. Корзун, які выдаў некалькі манаграфій і шмат навуковых артыкулаў па праблемах рускага праваслаў'я. Сярод яго навуковых прац і каштоўныя даследаванні па старажытнагрэчаскай і рымскай рэлігіі.

Адзінства накірункаў навуковай школы М.М. Нікольскага яскрава ўвасобілася і ў выданні супрацоўнікамі кафедры Г.І. Даўгяла, К.А. Рэвяка і В.А. Фядосікам надзвычай каштоўных першакрыніц – кніг рымскага гісторыка І стагоддзя Іосіфа Флавія «Іудзейская вайна» і «Іудзейскія старажытнасці» з навуковымі каментарыямі. Гэта ўнікальныя крыніцы як па гісторыі Рымскай дзяржавы, так і па старажытнай гісторыі Блізкага Усходу, там ёсць і храналагічна першыя звесткі аб Ісусе, хрысціянах, найбольш падрабязная інфармацыя аб сітуацыі ў Палесціне часоў іх жыцця і дзейнасці. Між іншым наша выданне Іосіфа Флавія ў 1991 г. было першым (і, як аказалася, адзіным) выданнем у СССР. Значнасць яго пацвярджаецца тым, што тыраж кніг склаў каля 200 тыс. экзэмпляраў, а зараз колькасць публікацый гэтых тэкстаў на адукацыйных інтэрнэт-сайтах многіх краін дасягае амаль сотні.

Акадэмік М.М. Нікольскі, таксама як і заснавальнік медыявістычнага накірунку ў БДУ акадэмік У.М. Перцаў, шмат увагі надаваў падрыхтоўцы падручнікаў для ВНУ, школ. І гэтая традыцыя працягваецца. Усе школьныя падручнікі па гісторыі старажытнасці і сярэдневякоў'я, што выйшлі і выходзяць у Беларусі, створаны супрацоўнікамі кафедры. З грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь выдадзены вучэбныя дапаможнікі для ВНУ па гісторыі Старажытнага Усходу, гісторыі сярэдніх вякоў. Мы разумеем, што ніякія «канспекты першакурсніка» і «вучэбна-метадычныя комплексы» не ў стане замяніць паўнавартасныя падручнікі, хрэстаматыі і тэксты першакрыніц. Таму адна з галоўных задач кафедры – канчаткова завяршыць поўнае забеспячэнне студэнтаў (не толькі нашага, але і ўсіх універсітэтаў Беларусі) "грыфаванымі" падручнікамі і хрэстаматыямі па ўсіх адпаведных курсах.

Адным з важных перспектыўных накірункаў працы кафедры з'яўляецца папулярызацыя вынікаў нашых даследаванняў. Зараз попыт на выданне кніг дыктуе рынак, і не толькі ў нас. Ці многа людзей прачытае манаграфію «пад доктарскую» тыражом усяго ў 100 экзэмпляраў? А вось попыт на захапляльную навукова-папулярную літаратуру, даведнікі, энцыклапедычныя выданні трывала існуе. Любы гістарычны сюжэт – цікавы, толькі падаць яго трэба захапляльна. Канешне, ацэнка навуковай дзейнасці толькі па колькасці надрукаваных манаграфій, артыкулаў у вузканавуковых зборніках састарэла. Гуманітарныя навукі не могуць быць строга акадэмічнымі, яны павінны мець выхад на шырокія колы людзей, у гэтым і ёсць іх прызначэнне. Яшчэ акадэмік М.М. Нікольскі напісаў шмат навукова-папулярных работ. І мы працягваем гэтую традыцыю М.М. Нікольскага, Г.М. Ліўшыца, Ф.М. Нячая, публікуючы вынікі сваіх даследаванняў у выглядзе багата ілюстраваных даведнікаў, навукова-папулярных кніг. Выходзяць яны вялікімі тыражамі не толькі ў Беларусі.

Кафедра, заснаваная М.М. Нікольскім, мае моцныя міжнародныя сувязі. Гэта і зразумела, па нашых спецыяльнасцях немагчыма працаваць ізалявана. Мы маем трывалыя навуковыя кантакты з Пенсільванскім, Маскоўскім, Казанскім, Харкаўскім, Варшаўскім, Вроцлаўскім і многімі іншымі ўніверсітэтамі. Найлепшая падстава для такіх кантактаў – нашы навуковыя працы, тут непатрэбна нешта штучнае. Але галоўнае тое, што з часоў акадэміка М.М. Нікольскага наша кафедра – вядучы навуковы цэнтр Беларусі па старажытнай гісторыі. Такая місія вельмі адказная, і мы памятаем і добра ўсведамляем словы М.М. Нікольскага, якія прагучалі ў далёкім ужо 1922 г.: «Нам многае дадзена, з нас многа і будзе спытана».

У гонар акадэмікаў М.М. Нікольскага і У.М. Перцава, пачынаючы з 1995 г., кафедра гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў раз у два гады праводзіць міжнародную навуковую канферэнцыю. Яна пачынаецца 13 лістапада – у дзень нараджэння М.М. Нікольскага, таму і назва – «Лістападаўскія сустрэчы». У яе рабоце ўдзельнічаюць калегі-навукоўцы з універсітэтаў Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Чэхіі, Германіі, ЗША і іншых краін. Адбылося ўжо восем «Лістападаўскіх сустрэч» даследчыкаў старажытнай і сярэдневяковай арыенталістыкі, антыказнаўства, гісторыі рэлігіі, медыявістыкі.

Трэба адзначыць, што, нягледзячы на цяжкасці, якія ўзнікалі не раз на працягу дзесяцігоддзяў існавання навуковай школы М.М. Нікольскага і былі звязаны галоўным чынам з кан'юнктурнымі «ўстаноўкамі зверху», кіраўніцтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ніколі не ішло па шляху прафанацыі навукі, а зберагала навуковы патэнцыял калектыву даследчыкаў, садзейнічала іх даследаванням. Навуковая школа М.М. Нікольскага – гэта сапраўды ўніверсітэцкая навуковая школа, якая была створана і развіваецца ў БДУ і, як паказаў час, унесла свой уклад у міжнароднае прызнанне навуковай дзейнасці вядучага ўніверсітэта Беларусі.

[1] Гл.: Никольский Н.М. Религия как предмет науки // Никольский Н.М. Избранные произведения по истории религии. М., 1974. С. 16; Яноўскі А.А. Аб распачынанні гістарычнай навукі на Беларусі // Гістарычная навука ў Белдзяржуніверсітэце на рубяжы тысячагоддзяў. Мн., 2000. С. 9.

[2] Н и к о л ь с к и й  Н . М . Религия как предмет науки… С. 36–37.
[3] Гл.: Я н о ў с к і  А . А . Аб распачынанні гістарычнай навукі на Беларусі… С. 7.
[4] Гл.: З е л ь с к і  А . Г . Жыццё і дзейнасць Мікалая Міхайлавіча Нікольскага // Матэрыялы выкладчыцка-студэнцкай канф. «Лістападаўскія сустрэчы» ў гонар М.М. Нікольскага і У.М. Перцава (14–15 лістап. 1995 г.). Мн., 1996. С. 5.
[5] Там жа. С. 5–6.
[6] Н и к о л ь с к и й  Н . М . Религия как предмет науки… С. 21–22.
[7] Гл.: Б р а н д е с  Г . Первоначальное христианство. М., 1929. С. 48; В а н  д е н  Б е р г  в а н  Э й с и н г а  Г . А . Первоначальная христианская литература. Рязань, 1929. С. 23–52; В и п п е р  Р . Ю . Возникновение христианской литературы. М.; Л., 1946. С. 173–184; К о в а л е в  С . И . Основные вопросы происхождения христианства. М.; Л., 1964. С. 32; Л е н ц - м а н  Я . А . Происхождение христианства. М., 1960. С. 36–39; Р а н о в и ч  А . Б . О раннем христианстве. М., 1959. С. 256–258; Р у м я н ц е в  Н . В . Православные праздники, их происхождение и классовая сущность. М., 1936. С. 49; Т о к и н  Н . Происхождение христианства. М., 1931. С. 134–136; Ф р а н ц о в  Г . П . Научный атеизм. М., 1972. С. 367.
[8] Гл.: Л и в ш и ц  Г . М . Очерки историографии Библии и раннего христианства. Мн., 1970. С. 148.
[9] Р у м я н ц е в  Н . В . Православные праздники… С. 43.
[10] Н и к о л ь с к и й  Н . М . Религия как предмет науки… С. 33.
[11] Н и к о л ь с к и й  Н . М . Мировой и социальный переворот по воззрениям раннего христианства // Никольский Н.М. Избранные произведения по истории религии. М., 1974. С. 204–205.
[12] Н и к о л ь с к и й  Н . М . Религия как предмет науки… С. 17.
[13] Гл.: М и л о в и д о в  В . Ф . Предисловие. Примечания // Никольский Н.М. Избранные произведения по истории религии. М., 1974. С. 13, 261; Н и к о л ь с к и й  Н . М . Политеизм и монотеизм в еврейской религии // Там же.
[14] Гл.: Историография античной истории. М., 1980. С. 80; Я н о ў с к і  А . А . ,  Ф я д о с і к  В . А . 125-годдзе карыфеяў беларускай гістарычнай навукі // Вытокі гістарычнай навукі БДУ. Мн., 2005. С. 3.
[15] Гл.: Д о в г я л о  Г . И . Н.М. Никольский как хеттолог // Праблемы гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў. Мн., 2000. С. 9.

Паступіў у рэдакцыю 17.05.11.

***Віктар Анатольевіч Фядосік*** – доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў. Аўтар каля 300 навуковых публікацый (сярод іх 6 манаграфій па праблемах антычнага хрысціянства, 4 кнігі па антычнай і сярэдневяковай культуры, а таксама 30 падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па гісторыі Старажытнага Рыма і сярэдніх вякоў для ВНУ і школ). Лаўрэат прэміі БДУ імя У.І. Пічэты ў вобласці сацыяльных і гуманітарных навук. Узнагароджаны медалём свяціцеля Кірылы Тураўскага Беларускай Праваслаўнай Царквы.